Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

**№ 11** Серада, 11-га ліпеня 1923 г. **Год I.**

## На клясавым грунце.

Далучаныя да Польшчы, беларусы гэтым самым аказаліся ўблутанымі ў-ва ўсе справы і інтарэсы жыцьця Польскага гаспадарства ў самы цяжкі для апошняга час: час крысталізацыі і выяўленьня тых асноў, на якія будзе апірацца далейшае істнаваньне польскае дзяржаўнасьці.

Польшча перажывае барацьбу клясаў і сацыяльных групіровак за ўладу. Праўда, гэтая барацьба вядзецца ад самага пачатку закладзін Польскае дзяржавы, але ў пэрыад тварэньня канстытутцыі ішлі больш тэарэтычныя споркі, споркі аб прынцыпы. Цяпер настаў другі пэрыад: пэрыад правядзеньня прынятай устаноўчым соймам канстытуцыі ў жыцьцё.

Ведама, што прынцыпы і правядзеньне іх у жыцьцё—гэта дзьве зусім розныя рэчы. Залежна ад таго, **хто** іх рэалізуе, самыя лепшыя законы могуць прыняць выгляд нейкае карыкатуры, абярнуцца ў злую насьмешку над тымі, хто іх укладаў. Вось чаму ў гэты другі пэрыад дзяржаўнага будаўніцтва Польшчы мае нязвычайна вялікую вагу пытаньне аб тым, у чые рукі папала дзяржаўная ўлада.

У Польшчы зьмены ўраду адбываліся вельмі часта. Вынікала гэта з таго, што як у першым, устаноўчым сойме, так і ў цяперашнім сілы „правіцы" і „левіцы" — блізу роўныя, з перавагай некалькіх галасоў то ў адзін, то ў другі бок. Трэба, аднак, адзначыць, што падзел на „правіцу" і „левіцу" ў польскіх соймах ня меў дагэтуль пад сабой нейкага сталага грунту: ён апіраўся не на выразным клясавым падзеле партыяў, а на чыста палітычных адзнаках тае ці іншае групы, зьменных, як ўсё тое, што ня мае пад сабой трывалае клясавае ідэалёгіі.

Цяпер Польшча перажывае нешта новае. Цяпер можам сказаць, што **„правіца" і „левіца" знойдуць ўрэшце моцны клясавы грунт**, і пад той час, як кулакі—сяляне (багатыры) пад камандай Вітаса аб'ядналіся з хіенай (з панамі), злучыўшы гэтак свае інтарэсы з інтарэсамі паноў-абшарнікаў,—элементы запраўды левыя з боку сваей сацыяльнай ідэалёгіі зразумелі ўрэшце ўсю непрымірымасьць інтарэсаў працоўных масаў, работнікаў і бяднейшага сялянства, з інтарэсамі стварыўшаеся цяпер соймавае большасьці. Цяперашні падзел у сойме на „правіцу" і „левіцу" апіраецца ўжо выразьней на клясавым грунце.

Гэта зыйшлося як-раз з пэрыадам рэалізацыі ў Польшчы канстытуцыі. І вось чаму партыйная барацьба даходзіць цяпер да свайго кульмінацыйнага пункту і **выліваецца патроху за межы соймавай залі.**

Абастрэньню палітычнае барацьбы шмат памагае той фінансавы крызіс, які распачаўся з пераходам улады да „правіцы", той нячуваны дагэтуль узрост дарагоўлі, што зьяўляецца простым вынікам упадку цэннасьці польскае маркі. Мы маем на думцы выбух так-званых „галодных" забастовак сярод працаўнікоў найважнейшае галіны эканамічнае гаспадаркі краю: чыгунак. Орган ППС, „Robotnik", даводзіць, што забастоўка чычуншчыкаў, якая пачалася ў Галічыне,— чыста эканамічная і „узьнялася дзякуючы раптоўнаму, у працягу пару тыдняў, узросту дарагоўлі, ад якое і без таго бедны бюджэт чыгуншчыка раптоўна панізіўся". Наадварот, эндэцкі лейб-орган „Gazeta Warszawska" даводзіць, што тут мае месца жаданьне сацыялістаў выкарыстаць галадоўку дзеля барацьбы з правым урадам. Тое-ж пішуць эндэкі і ў „Rzeczpospolitej".

Ня гледзячы на запярэчаньне сацыялістычнае газэты, трэба сказаць, што палітычная барацьба тут зусім натуральна зьліваецца з эканамічнай. Ужо самыя весткі аб тым, што на мітынгах забастоўшчыкаў выступаюць з прамовамі сацыялістычныя паслы, пацьвярджаюць нашы словы: ясна, што праціўнікі сучаснага ўраду ня могуць не крытыкаваць яго, ня могуць не паказваць на тое, што пабеда рэакцыі ў Польшчы не дала шчасьця працоўным масам і даць ня можа, што ў сувязі з гэнай пабедай знаходзіцца і фінансавы крызіс, які выклікаў дарагоўлю, з каторай урад пануючае клясы змагацца ня можа, бо гэта зьвязана з нарушэньнем інтарэсаў клясы ўласьнікаў....

Усё гэта, толькі ў вельмі вострай форме, чытаем кожны дзень на страніцах таго-ж „Robotnika". Усё гэта чулі мы ў сойме ў прамовах сацыялістычных паслоў. Дый усё гэта напэўна гаворыцца і на мітынгах забастоўшчыкаў!

Магчыма, што польскія сацыялісты, як добрыя дыпламаты (то-ж пасол Дашынскі падпісываў у Рызе польска-расейскі трактат аб падзеле Беларусі!), ня хочуць да часу адкрываць сваіх карт. Вельмі можа быць і тое, што яны самі не разумеюць, куды яны ідуць. Але мы не займаемся дыпламацыяй і стараемся асьвятляць нашым чытачом істоту справы.

І мы лічым бязспрэчным факт узмацаваньня клясавага элемэнту ў тэй палітычнай барацьбе, што адбываецца на нашых вачах у Польшчы. А гэта павінна перахіліць сымпатыі беларускага народу—народу бадай выключна вясковае беднаты і працоўнае інтэлігенцыі—бязумоўна **на старану новае „левіцы"**, бо нашы сацыяльныя імкненьні могуць быць зьдзейсьнены толькі ў прыпадку перамогі тых польскіх партыяў, якія апіраюцца на масы работнікаў і працоўнага сялянства.

**Лаўрыновіч.**

## Маральнасьць і палітыка.

Палітыка сучасных капіталістычных дзяржаваў вельмі любіць гаварыць аб праўдзе, справядлівасьці, маральнасьці і кляйміць ворагаў за ўсякае адступленьне ад гэных высокіх прынцыпаў.

Але гэта—адны толькі словы!

Прыгледзьцеся да ўсіх палітычных заяваў, у якіх аўтары іх прызываюцца на „высокія прынцыпы", і вы заўсёды знойдзеце ў іх укрытае жаданьне ашукаць, абаламуціць другіх, хаваючы за пекнымі славамі дужа паганыя інкненьні...

Асабліва ярка гэта выяўляецца цяпер на фоне міжыдзяржаўных адносін, утвораных на аснове вэрсальскага міру. Усё, што робяць дзяржавы-пераможцы, добра і справядліва. Наадварот, кожын крок пабітых, хаця-бы скіраваны да абароны самых бязспорных іх правоў, абвяшчаецца нечым нягодным, сьмяротным грахом.

А вось самы сьвежы прыклад. Калі ў Баўгарыі адбыўся пераварот, але Стамболійскі яшчэ быў жывы і гуртаваў адданае яму сялянства дзеля аружнай барацьбы з Чанковым,—суседнія дзяржавы, асабліва Югаславія, пагражалі выступленьнем „проці захватчыкаў улады", як яны называлі новы ўрад. Мы ўжо тады супакоівалі нашых чытачоў, што калі праўда, што Стамболійскі забіты, дык і „захватчыкі ўлады" будуць скора прызнаны самым законным урадам. Ды так яно і сталося; суседзі Баўгарыі—Румынія, Югаславія, Грэцыя і Чэха-Славакія, калі вестка аб сьмерці Стамболійскага аказалася праўдзівай, пасьпяшылі замірыцца з „урадам захватчыкаў", афіцыяльна прызналі яго і завязалі з ім дыпляматычныя зносіны...

**Хто мае сілу, за тым і права**—вось запраўдная мараль палітыкі сучасных капіталістыч. гаспадарстваў.

Але бывае і інакш.

Бывае, што таму народу, якога суседзі хочуць загубіць, ягоную сілу залічаюць да найвялікшых грахоў, пад той час, як слабасьць другога народу часта зьяўляецца для яго адзіным ратункам.

Вазьмеце хаця-бы народ беларускі і паўглядайцеся на адносіны да яго польскага ваяўнічага нацыяналізму. Ясна, што нас хочуць „зьесьці". Але жывога народу так лёгка ня зьеш: нас лішне многа і мы лішне сільныя, каб можна было нас проста праглынуць. Тут можна і падавіцца! І вось польскі нацыяналізм стараецца ў адносінах да беларусаў апаганіць і апляваць усе тыя сьветлыя імкненьні да захаваньня і разьвіцьця сваей нацыянальнай культуры, да аб'яднаньня і незалежнага дзяржаўнага быту ўсіх Беларускіх зямель, якія сто гадоў насіў у сэрцы сваім польскі народ і якімі эндэцыя так горда пышаецца перад усім сьветам!... Затое з якой-жа любасьцяй гавораць польскія нацыяналісты аб слабым, выміраючым, ня маючым ніякіх надзей на будучыну славянскіх племені лужычан, налічаючым каля 20.000 душ, што гібеюць, закінутыя ў вялізарным нямецкім моры ў адлежнасьці дзьвюх гадзін дарогі ад Бэрліну!

„Лужычане, на жаль, прадстаўляюць выміраючае племя лішне слабое, каб даць адпор магутнай нямецкай навале, а калі справа йдзе аб ратунак для іх, дык гэта могуць зрабіць толькі іх суседзі палякі і чэхі, будзячы ў іх нацыянальную сьвядомасьць. Як беларусы з аднаго боку, славакі—з другога, так лужычане з трэцяга зьяўляюцца тымі славянскімі народамі, якія найбольш блізкі да нас па сваей мове; адносіцца гэта найбольш да лужычан".

Так піша „Gazeta Warszawska", орган, каторы ў адносінах да беларусаў займае самае непрымірымае становішча, які кліча ўсё польскае грамадзянства і польскую ўладу да барацьбы з беларусамі і да поўнага іх нацыянальнага і матэрыяльнага вынішчэньня! І тыя самыя людзі, што працуюць на пагібель беларусаў, каторых баяцца,—у адносінах да бязсільных, кволых лужычан знаходзяць вось такія словы спогаду і прызнаньня:

„Задачай, а нават абавязкам Польшчы, якая павінна стануць на перадзі славяншчыны, зьяўляецца аказваньне маральнае і культурнае помачы найбліжэйшым па крыві славянскім братам, пачаткі гісторыі каторых за часоў Балеслава Харобрага злучыліся з пачаткамі гісторыі Польшчы"..,

А калі таго-ж жадаюць ад польскага гаспадарства беларусы, якія маюць права не прасіць ласкі, а **вымагаць** справядлівых адносін да сваіх культурных і нацыянальных імкненьняў, дык ім адказваюць на гэта зьдзекамі і насьмешкамі...

Вось „маральнасьць" палітыкі: лужычан трэба падтрымаць, бо яны лішне слабыя, каб іх прышлося каму-колечы баяцца: беларусаў трэба зьніштожыць, бо у будучыне іх прыдзецца баяцца!

**К. Фалькевіч.**

*Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Нашага Сьцягу" будзе і яго супрацоўнікам.*

